## Шматдзетныя сем'і,



канкрэтная і іншыя

3 стар.

## Старонка для жанчын



СШ№1, Музей ім. Сухога і інш.

4 стар.

## Лютаўскія вечары



сустракаюцца былыя аднакласнікі

6 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 4(147) 23 - 29 студзеня 2003 года | Кошт 300 руб.

Праблема




*тэкст А.Касцяня, здымак А.Храпавіцкага*

Вы здзівіліся такой назве на здымку? А між тым для калектыву МКК гэта стала ўжо звычным. Цяпер зарплату яны атрымліваюць не грашыма, а праз краму, якая і належыць камбінату. Трэба сказаць, што выбар прадуктаў тут досыць багаты. Але ўсё роўна такая практыка падабае да вяртання часоў ваеннага камунізму. Грошы адмяніць! А што, калі два члены сям'і працуюць на МКК і іх дзіцяці спатрэбілісятэрмінова боцікі? Дзе ўзяць грошы? Зазначым яшчэ, што частка работнікаў нават перабірае ліміты выбару тавараў, частка недабірае, спадзяючыся атрымаць калі грошы, частка ўвогуле не набывае тавары, відаць, у тых сем'ях ёсць іншыя крыніцы даходаў. А ў цэлым, сумна, спадары.

# ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

Вы можаце патэлефанаваць да нас і паведаміць сваю навіну. Калі нікога не будзе на сувязі, пакіньце інфармацыю на аўтаадказчык з нумарам вашага тэлефона, і вамператэлефануюць нашы журналісты. Прынцып нашай газеты – зрабіць яе ВАШАЙ! Таму не саромцеся, тэлефануйце, што ў вас здарылася, што турбуе. Калі вам ёсць што сказаць, кажыце! Мы заўсёды рады апублікаваць тое, што цікавіць людзей.



## 2-46-14

НАДВОР'Е — Агляд складзены па дадзеных 23/01/2003 0:00

| | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дні тыдня | чц | пт | сб | нд | пн | ат | ср | чц |
| Тэмпература: з 14 гадзін | -1 | +1 | +1 | -2 | -3 | -1 | 0 | -1 |
| з 2 гадзін | -3 | 0 | 0 | -1 | -5 | -3 | -1 | -1 |
| Ціск, мм рт.сл. | 748 | 753 | 762 | 763 | 760 | 749 | 733 | 731 |
| Накірунак ветру | Пдн-У | Пдн-У | Усх | Пдн-У | Пдн-З | Пдн-З | Пдн-З | Пдн-З |
| Хуткасць ветру, м/с | 5 | 3 | 2 | 2 | 2 | 5 | 3 | 5 |

© Gismeteo.Ru Заўвага: прагноз надвор'я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

**17 студзеня адбыліся ўстаноўчыя сходы ўчастковых выбарчых камісій, якія будуць дзейнічаць пад час выбараў у мясцовыя Саветы. Такіх у Глыбокім 6. У кожнай прызначаны старшыня, яго намеснік і сакратар.**

# Камісіі вызначыліся

■ Ул. інфармацыя

Працэдура досыць бюракратычная, але неабходная. Ад гэтых людзей у асноўным будзе залежаць тое, як дакладна і справядліва будуць падведзены вынікі галасавання глыбачан.

Сярод членаў камісій – некалькі прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацый.

да тэмы

# Паспрабуем спрагназаваць

■ Алесь Касцень

Кампанія па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў уступіла ў новую стадыю. Завершана высунэнне кандыдатаў у абласныя, раённыя, сельскія і пасялковыя Саветы. Цяпер справа за рэгістрацыяй гэтых кандыдатаў. Размова, канечне ж, ідзе аб рэгістрацыі тых кандыдатаў, якія высунуліся ад партый, шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Але толькі не па ініцыятыве мясцовых улад ці якіх-небудзь мясцовых калектываў. Дарэчы, у час гэтай выбарчай кампаніі мясцовая "вертыкаль" вельмі спакойна і ў нечым нават прыхільна ставілася да ініцыятыў кандыдатаў у дэпутаты і сяброў іх ініцыятыўных груп, якія адносяць сябе да дэмакратычнай апазіцыі.

Але галоўнае будзе вырашацца ў працэсе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Тут ёсць шмат падводных камянёў. І толькі пасля іх праходжання стане поўнасцю зразумелым, як улады аднесліся да незалежных кандыдатаў.

Тут, на мой погляд, ёсць два шляхі. Першы – ставіць усялякія магчымыя перашкоды, зрабіць так, каб з магчымых, зусім нешматлікіх прэтэндэнтаў у рэальныя кандыдаты трапіла яшчэ менш так званых дэмакратаў. Шлях, які выбіраўся на працягу многіх апошніх выбараў.

Але перад уладнымі структурамі паўстае яшчэ адзін шлях. А што калі даць магчымасць апазіцыі высунуць сваіх кандыдатаў? Няхай сабе балатуюцца, няхай нават дзе- нідзе і перамагаюць, уваходзяць у склад мясцовых Саветаў.

Па-першае, іх не так і шмат, таму рэальных фракцый і рэальнай апазіцыі яны стварыць ніяк не змогуць.

Па-другое, створыцца абстаноўка, пра якую можна будзе гаварыць: выбары былі дэмакратычнымі і свабоднымі. А гэта для іміджу нашай дзяржавы ў свеце, ой, як патрэбна, не той пакуль што імідж.

Па-трэцяе, можна паглядзець і далей. Стан спраў у эканоміцы сёння такі, што бліжэйшых паляпшэнняў не чакаецца. Не чакаецца лепшага і ў аддаленай перспектыве – больш таго, прадчуваецца далейшае падзенне ў бездань.

І вось тут цэнтру, які любіць пераносіць віну за свае паражэнні, як кажуць, на месцы, будзе што сказаць дэмакратам: а вы ж таксама вінаватыя ў складанай сітуацыі, вашы прадстаўнікі былі ў шэрагах дэпутатаў, прымалі рашэнні, памыляліся. Таму дзяліце адказнасць.

Гэта толькі прыватныя меркаванні. Але тое, што прадстаўнікі апазіцыі, калі акажуцца яны сярод дэпутатаў, будуць у меншасці і ў вельмі складанай сітуацыі адназначна. Але ісці на гэта, відаць, было трэба. І падзякуем, падтрымаем тых, хто меў адвагу ўступіць у барацьбу за дэпутацкія мандаты.



# Зробім лепш- разам

**У папярэднiм нумары бюлетэня Асамблеi дэмакратычных няўрадавых арганізацый вучнi 9 "Е" класа СШ №3 г. Глыбокае прачыталi iнфармацыю аб правядзеннi акцыi "Зробiм лепш" i з задавальненнем вырашылi правесцi навагоднiя ранішнiкi для вучняў 1-х класаў. Падарункi рыхтавалi ўсiм класам: прыносiлi, што маглi (кнiжкi, сшыткi, цацкi, цукеркi, яблыкi...)**

■ **Таццяна Барткевiч**

Наладзiлi для дзяцей гульнi, конкурсы, паклiкалi Дзеда Мароза са Снягуркай i казачнымi героямi. Завяршылi свята, пачаставаўшыся пiрагом, што спякла Таня Стоцiк, з гарбатай, цукеркамi.

Трэба было бачыць, з якiм задавальненнем дзевяцiкласнiкi рыхтавалiся да акцыi i як яе праводзiлi. Для iх гэта было сапраўднае свята: зрабiць лепш тым, хто жыве побач. Хацелася б пералiчыць самых актыўных удзельнiкаў акцыi: Стоцiк Таня, Радзько Надзя, Папко Дзiна, Атвалка Таццяна, Протас Iна, Плескачэўская Марына, Пачопка Алена, Сiвiцкая Ірына.

Радавала тое, што дзецi не ачарствелi душой, не паддалiся настрою, што, здаецца проста "вiсiць" у паветры – усё дрэнна. Калi дрэнна, то трэба рабiць лепш.

Акцыя дае магчымасць адчуць, што палепшыць жыццё – у сiлах кожнага, хто хоча гэтага, i радасць можна адчуць не толькi калi нешта атрымлiваем. І калi нясеш дабро iншым, адчуць сябе не ляжачым каменем, а жывым ручаём.

Урэшце, прымяненне сваiм сiлам можна знайсцi.


На здымку: сярод iх – удзельнiкi акцыi

Пошта «Вольнага Глыбокага»

**Што сённяшнi работнiк сярэднiй калгаснай фермы атрымлiвае за сваю – без выхадных i адпачынкаў – працу, вядома. Грошы гэтыя вагаюцца, пачынаючы ад некалькiх тысяч да некалькi дзесяткаў тысяч рублёў. Пражыць на iх немагчыма – гэта вам скажа нават i не толькi той эканамiст, якi падлiчвае кошт сярэдняга спажывецкага кошыка беларуса.**

# Мехам па мордзе

■ **Алесь Касцень**

Як жа жывуць на вёсцы? Крадуць.

Прывозяць на ферму муку для раздачы жывёлы. Прывозяць бедненька, толькi для справаздачы. Але i яна не трапляе жывёле. Жывёлавод прыцiсне гэту муку для ўласнага хлява i ўласнай карoўцы цi свiннi. Ну, а калгаснай скацiне мехам па мордзе, каб на пысе засталiся крохi той мукi. Правяраючы ўбачыць – ага, значыць, кармiлi.

Для правяраючага, яно, канечне, сыдзе. Вось толькi задумаемся, браткi-беларусы. А цi не атрымлiваецца так, што i мы з вамi ў рэшце рэшт атрымлiваем за сваю працу толькi «мехам па мордзе». Даюць нейкую капейчыну - ну, i цешцеся. Нейкая кроха на пысе ёсць. Можна па крайней меры ў краму пасля зарплаты пайсцi i тую ж бутэльку чарнiла купiць. Жонка даруе.

# Пісанаму не вер

**Не так даўно вярталiся мы з сябрам з Полацка. Была трэцяя гадзiна ночы, калi мы пад'язджалi да Глыбокага, i раптам сябра ўспомнiў, што забыўся купiць хлеба. "Купiм у "Пралесцы", – кажу я яму, – там напiсана, што працуе кругласутачна".**

■ **Зміцер Лупач**

Калi ж мы прыехалi да крамы, то ўбачылi, што яна была зачынена. На ёй сапраўды вiсела шыльда, на якой было напiсана, што крама працуе 24 гадзiны, а каля яе на другой шыльдзе напiсана, што крама працуе з 8 да 21 гадзiны. Прычым, абодва надпiсы выкананы выяўна, ярка – адразу кiдаюцца ў вочы. Добра разгледзеўшы надпiсы на шыльдах, я прыйшоў да высновы, што там не напiсана, якi тэрмiн крама павiнна працаваць 24 гадзiны. Калi 24 гадзiны ў двое сутак, то ўсё становiцца больш-менш зразумелым. Калi ж адмiнiстрацыя такiм чынам хацела пажартаваць з пакупнiкоў, то лепш тады назваць краму "1 красавiка". Тым больш, што назва гэта, як i "Пралеска", таксама вясенняя.

# На злачынны шлях змоладу?

■ **Далiдутка Г.А., начальнiк iнспекцыi па справах непаўналетнiх**

На фоне зніжэння злачыннасцi сярод непаўналетнiх, у мiнулым, 2002 годзе вырасла колькасць правапарушэнняў, якiя былi здзейснены ва ўзросце 10-14 год. На мове закона такiя ўчынкi называюцца грамадска небяспечныя дзеяннi да дасягнення ўзросту, з якога наступае крымiнальная адказнасць.

Так, расце колькасць малалетнiх дзяцей, якiя ўступiлi на сцежку разбояў, рабаванняў, крадзяжоў i iншых правапарушэнняў. Мiнулы год прынёс нам такiя выпадкi.

У траўнi 2002 года група 12-13-гадовых навучэнцаў СШ №2: браты Малiноўскiя: Вiталь i Валерый, Пятнiца Уладзiмiр, Крыўко Арцём пасля ўдыхання параў клею сiлай адабралi ў 70-гадовай бабулi 25 тысяч рублёў, калi тая выходзiла з магазiна.

У жнiўнi на вясковых могiлках у в. Прошкава трое навучэнцаў Прошкаўскай СШ: Рамашка Анатоль, яго брат Раман i Калеснiкевiч Вячаслаў перакулiлi 10 надгробных плiт, зламалi крыжы.

У гэтым жа месяцы трое непаўналетнiх: Сайкоўскi Дзмiтрый, навучэнец СШ №2, Падлiпскаў Iван i Шарко Васiль, навучэнцы СШ №3, з гаражнага масiва ў раёне МКК скралi аўтамашыну "Шкода", перафарбавалi яе i хацелi абмяняць на мапед.

Восенню 2002 года група 10-11-гадовых навучэнцаў СШ №3: Барысаў Дзiма, Гарбачоў Дзянiс, Ляшкевiч Андрэй, Браброўскi Валерый, Лук'янёнак Алег – як днём, так i ноччу шарылi па гардэробах у пошуку грошай, якiя потым трацiлi на цыгарэты, гульню на камп'ютары, салодкае. Калi гэты занятак надакучыў, яны аблюбавалi дом старэнькай жанчыны, якая была прыкаванай да ложка пасля цяжкай хваробы. Зламалi плот каля дома, разграмiлi туалет, пашкодзiлi шыфер, збiлi 14-гадовага хлопца за тое, што той уступiўся за бабулю.

У верасні 2002 года па прапанове дарослых суседзяў навучэнец Плiсскай СШ залез у чужы дом, адкуль украў алюмiнiевы посуд на суму 64 тысячы рублёў.

Але пабiў усе рэкорды навучэнец СШ №3 Каляга Дзмiтрый, якi на працягу восенi 2002 года адзiн i ў групе з сябрамi здзейснiў серыю крадзяжоў алюмiнiевых бiдонаў, алюмiнiевай сеткiрабiцы i iншых рэчаў, якiя належалi iншым грамадзянам. Красцi хадзiлi позна, вечарам цi ноччу. Былi ўпэўнены, што ўсё пройдзе тайна. Цяпер гэтыя аматары каляровага металу чакаюць суда.

Як правiла, падлеткавая злачыннасць – гэта вынiк безнагляднасцi. Бацькi замест таго, каб займацца выхаваннем, вырашаюць самыя розныя праблемы. Штраф для тых бацькоў, якiя дапусцiлi недахопы ў выхаваннi не такi вялiкi – усяго тры мiнiмальныя заробкi. А што можна чакаць ад падлетка ў будучым, калi ў такiм маладым узросце ён ужо злодзеямi рабаўнiком?

# Сям'я шматдзетная

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Вольнае Глыбокае". Піша Вам ваша пастаянная чытачка і шматдзетная маці з г.Глыбокае Ігнацьева Вікторыя Мікалаеўна. Прачытала ваш артыкул "Такія розныя матулі" і не змагла раўнадушна аднесціся да яго. Вельмі шкада, што вы толькі бачыце далёка за межамі раёна, у вёсцы Порплішча Докшыцкага раёна, сям'ю Зубаравых, у якой выхоўваецца шэсць добра дагледжаных дзяцей.*

*У нас у Глыбокім таксама шмат шматдзетных сем'яў, але не так ужо добра дагледжаных. У тым ліку і ў мяне шасцёра дзяцей, з іх пяць непаўналетніх. Я адна іх выхоўваю. Былы муж спіўся. Але ж я іх не кінула: апранаю, кармлю, абуваю. Проста не магу зразумець, чаму сям'я лічыцца непаўнацэннай? Прычым тут дзеці, што ў бацькоў не склалася жыццё? Раней чамусьці маці, якая нарадзіла пяць і болей дзяцей давалі ордэн, не важна, ёсць у дзяцей бацька ці няма. А чаму цяпер усё не так?*

*Было ў кастрычніку свята "Дзень маці". Нават не ўдастоілі павіншаваць: ні на рабоце, ні прафсаюз, у які рэгулярна плачу ўзносы(хаця б паштовачку атрымала), ні тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай абароны. Увогуле быццам не існую. Крыўдна!*

***З павагай да Вас шматдзетная маці з г. Глыбокае Ігнацьева Вікторыя Мікалаеўна.***

**Ад рэдакцыі**

Вельмі прыемна, што наша чытачка адрэагавала на невялікі артыкул нашага Пастаўскага карэспандэнта Уладзіміра Шыка. Сапраўды, тое, аб чым у ім расказвалася магло закрануць Вікторыю Мікалаеўну. Мы згодны, што нарадзіць і выхаваць шасцярых дзетак – гэта сапраўдны подзвіг. А ў наш час ці яго можа адважыцца толькі сапраўдная маці-гераіня. Але ці дапаможа такой маці ордэн? Гэта толькі часовае маральнае заахвочванне і не болей. Куды больш істотным стала б падтрымка з боку дзяржавы, ды лепш матэрыяльная, а не маральная. А дзеткі, канечне ж, не вінаватыя, што яны нарадзіліся ў такі крызісны час. І невядома, як бы склаўся лёс сям'і Ігнацьевых, каб яны жылі ў заможнай краіне і з надзеяй глядзелі ў заўтрашні дзень. Безвыходнасць, якую ў нас імкнуцца заліць гарэлкай, на жаль, цягне за сабой яшчэ большую безвыходнасць.

Шматдзетныя зараз лічацца сем'і, у якіх выхоўваецца трое і больш дзетак. Па стану на 1 студзеня 2003 года такіх сем'яў у Глыбоцкім раёне – 335. Гэта 1641 чалавек, з якіх 1106 дзетак.

Згодны мы і з тым, што няпоўная сям'я не можа лічыцца непаўнацэннай. Такая сям'я патрабуе яшчэ большай увагі і падтрымкі з боку грамадства. Асабліва калі яна шматдзетная. У нашым раёне да катэгорыі шматдзетных няпоўных сем'яў аднесена 65. А гэта 306 чалавек, з якіх 210 - дзетак.

А наконт крыўды, якую Вікторыя Мікалаеўна выказала ў адрас цэнтра "Крыніца" і сваёй прафсаюзнай арганізацыі нам удалося высветліць наступнае.

Глыбоцкі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай абароны "Крыніца" да "Дня маці" прымеркаваў дзве акцыі. Першая мела назоў "Працягнем руку мудрай маці" і была накіравана на дапамогу тым сем'ям, у якіх да гэтага дня ў 2002 годзе нарадзілася трэцяе дзіця. І такіх сем'яў у раёне аказалася 13. Другая акцыя – "Працягнем руку мужнай маці" – дапамога тым матулям, у якіх сыны загінулі ў "гарачых кропках".

Віншаванняў усіх шматдзетных маці цэнтр "Крыніца" не праводзіў. А вось шмадзетную сям'ю Ігнацьевых тут не забываюць. Па словах загадчыцы аддзялення пярвічнага прыёму інфармацыі, аналізу і адраснай сацыяльнай дапамогі Святланы Уладзіміраўны Волах, гэта сям'я атрымлівала адрасную сацыяльную дапамогу на працягу 11 месяцаў 2001 і першага квартала 2002 года. Неадназова для Ігнацьевых перадавалася гуманітарная дапамога. Восенню Вікторыя Мікалаеўна звярнулася ў цэнтр сацыяльнай дапамогі, каб ёй дапамаглі нарыхтаваць бульбу. Улічваючы стан здароўя жанчыны, ёй дапамаглі набыць бульбу па вельмі таннаму кошту і даставілі на дом.

Па тэлефоне мы звязаліся таксама з намеснікам старшыні пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі Глыбоцкага каапгандлю, дзе Вікторыя Мікалаеўна працуе поварам. Жанна Антонаўна Сташкевіч нам паведаміла, што іх прафкам таксама не арганізоўваў віншаванне сваіх работніц з "Днём маці", хаця можа і павінны былі. Але дзеткі Вікторыі Мікалаеўны заўсёды адпачываюць у прафсаюзных летніках, праходзяць аздараўленне. А нядаўна па заяве шматдзетная маці атрымала ад прафсаюза матэрыяльную дапамогу.

# Бронекалпак ад уласнага народа?

**Расiйскае тэлебачанне нават з нейкай урачыстасцю паведамiла, што ў Грозным аднаўляецца комплекс урадавых будынкаў, якiя былi знiшчаны пад час тэрарыстычнага акту, калi самаахвярнiкi накiравалi грузавiк, гружаны ўзрыўчаткай, да будынка ўрада i падарвалi яго разам з сабой.**

■ **Алесь Касцень**

Трагедыя,канечне, жудасная. І здзейснiлася яна, нягледзячы на моцную ахову, якая iснавала на той час. Загiнулi людзi. Цяпер жа, як паведамляецца, усё будзе на значна лепшым узроўнi – бронекалпакi, даглядныя вышкi. Як былы салдат-пехацiнец, ведаю, што такое бронекалпак. Гэта доўгатэрмiновае абарончае збудаванне, якое разлiчана весцi барацьбу не толькi супраць стралковай зброi, але i супраць цяжкой артылерыi.

Жыццё вымушае...

Вось толькi нельга не задумацца. Чэчня – самастойная рэспублiка ў складзе Расiйскай Федэрацыi. Неўзабаве павiнен тут быць праведзены рэферэндум па Канстытуцыi рэспублiкi. А затым, у адпаведнасцi з ёй, абраны новы ўрад. Такiм чынам для новага ўрада узводзяцца абарончыя збудаваннi доўгатэрмiновай накiраванасцi, у тым лiку i бронекалпакi, даглядныя вышкi. З аднаго боку – рэферэндум, з другога – абарона па ўсiх правiлах вайсковага досведу. Нонсенс.



# Фермер падводзіць вынікі

■ Алесь Касцень

2002 год ужо мінулы. Любы гаспадар, адсвяткаваўшы шматлікія навагоднія святы, пачынае весці падлікі, падрахункоўваць выдаткі і набыткі, намячаць планы дзеяння на будучае.

Што ў мінулым годзе прынесла Алегу Георгіевічу Райчонку зямля, якой ён валодае. Вырошчваў ён у асноўным зерне, а таксама бульбу на 8 гектарах, капусту на 1,2 гектара, буракі, якія з-за засушлівага лета падвялі. Пры наяўнасці двух трактароў, камбайна, неабходнай прычапной тэхнікі ўсе работы былі выкананы ў тэрмін. Зразумела, не абышлося без найму рабочай сілы. У фермерскай гаспадарцы акрамя гаспадара яго сына і жонкі працуе яшчэ адзін механізатар. Для пасадкі капусты наймалі работніц. Капаць бульбу дапамагалі школьнікі. Выкарыстанне дзіцячай рабочай сілы – скажа нехта.

**Вёска Германавічы ў Шаркоўшчынскім раёне некалі была славутым на захадзе Віцебшчыны мястэчкам. Пасля прыходу бальшавікоў хутка перарабілася ў звычайную вёску. Доўгі час тут існаваў калгас "Ільіча". Цяпер ён ператвораны ў вытворчы кааператыў "Светлы шлях". Што ўяўляе сабой гэта гаспадарка могуць засведчыць толькі дзве лічбы. Сёння ў кааператыве 400 кароў, калі ў калгасе было дзве тысячы. Заробак людзей складае за месяц каля дзвюх з паловай тысяч рублёў!**

Але ж нашы школьнікі з году ў год працуюць і на калгасных палях. А фермер за чатыры гадзіны працы на падборы бульбы пасля капалкі плаціў дзецям па тысячы рублёў. Акрамя таго бясплатна перадаў для школьнай сталовай 4 тоны бульбы. На зіму дастаткова.

Прадукцыя рэалізаваная. Іншая справа, што да гэтага часу не разлічылася з фермерам Полацкая раённая нарыхтоўчая кантора, якая прыняла капусту і буракі. Полацкі ж мелькамбінат з-за адсутнасці грошай прапануе фермеру за здадзенае зерне муку, макароны, камбікармы. Цэны вельмі высокія, таму гаспадару проста нявыгадна браць гэты тавар.

А вясна не за гарамі. Узнікае вялікае патрэба ў тэрміновай закупцы паліўна-змазачных матэрыялаў. Іх хацелася б купіць па фіксаванай, а не па свабоднай цане. Тут дзяржава павінна сказаць сваё слова. Падтрымка ўласнага вытворцы - асноўны пастулат яе сённяшняй эканамічнай палітыкі.

Ну а ў цэлым, ці варта сёння займацца фермерскай гаспадаркай, ці ёсць на гэта эканамічныя, фінансавыя рэзоны?

На гэта пытанне Алег Георгіевіч адказаў адназначна:

- Трэба і яшчэ можна. Акрамя земляробства я ж яшчэ трымаю і жывёлу. 6 быкоў у мінулым годзе прадаў, кожны каля 400 кілаграмаў. Ёсць іншая жывёла, але гэта для ўласных у асноўным патрэб. Што ж да фінансаў, то, пасля падлікаў высветлілася: мы не ва ўбытку, хаця і прыбыткі зусім нязначныя, калі раскінуць на сям'ю – атрымліваецца толькі звычайная зарплата. Затое незалежнасць, магчымасць працаваць і жыць так. Як ты жадаеш.

**Зразумела, што фермерская гаспадарка Алега Георгіевіча Райчонка ўтварылася не на пустым месцы. Тыя 56,7 гектараў пашы, якія ён сёння мае, аддаліся гаспадару не адразу, "порцыямі", можна сказаць, але чалавек імкнуўся узяць у свае гаспадаранне зямлю і дабіўся гэтага. Іншая справа, што ў Райчонка, дзякуючы жыццёвым абставінам, была ў тыя часы ўсеагульнага развалу магчымасць купіць тэхніку, закласці падмурак фермерскай гаспадаркі.**



**Неяк давялося мне падмяніць на працы знаёмага, які працаваў на ферме «Разанава» (у Глыбоцкім раёне) вартаўніком. Незадоўга перад тым, як мне давялося заступіць на працу, ферма пацярпела ад злодзеяў.**

# Столькі падняць?

■ Зміцер Лупач

Мяне ў гэтым выпадку ўразіла нахабнасць, з якой злодзеі спрабавалі ўкрасці алюмініевы чан. Стаяў ён ля фермы, раней яго выкарыстоўвалі для ахалоджвання малака. Калі ж на ферме з'явіўся халадзільнік, яго выкарыстоўвалі для паення кароў. Важыў ён кілаграм 150. На ферме ракатала дойка, даяркі заканчвалі даіць кароў. Злодзеі рашылі, што ўсе занятыя ўнутры будынка, таму пад'ехалі на мікрааўтобусе да самага чана і паспрабавалі яго загрузіць у салон. Але ён не пралазіў. Тады яны ўдваіх(!) аднеслі яго метраў на сто пяцьдзесят (а ў ім было яшчэ больш за дваццаць кілаграм лёду) і з дапамогай кавалды і сякеры сталі яго рассякаць на кавалкі. За гэтым заняткам і заспела іх адна з даярак. Дзякуючы гэтаму злодзеяў удалося затрымаць.

На мінулым тыдні ў суседняй вёсцы злодзеі, прыехаўшы на аўтамабілі, укралі ў двух гаспадароў некалькі соцень метраў алюмінеевай сеткі. Перад гэтым іх бачылі днём, яны пад выглядам камерсантаў праязджалі па вёсцы, выглядаючы дзе што дрэнна ляжыць. Не так даўно ад такіх злодзеяў пацярпеў і я. Ноччу ў мяне з лазні вынеслі дзве алюмініевыя флягі.

Апошнім часам крадзяжы каляровых металаў набываюць усё большы размах, злодзеі з кожным разам становяцца больш нахабнымі. Неабходны рашучыя меры з боку дзяржавы, бо калі такое будзе працягвацца, то нашы вёскі могуць наогул застацца без электрычнасці.

# Таццянін дзень – дзень студэнтаў

■ Падрыхтавала Таццяна Смоткіна

25 студзеня па праваслаўнаму календары дзень святой пакутніцы Таццяны. Яна нарадзілася ў 1-й палове III стагоддзя ў знатнай рымскай сям'і, тайна спавядала хрысціянскую веру. Дасягнуўшы паўналецця, пастом і малітвай служыла богу, стала дыяканісай у адным з рымскіх храмаў, даглядала хворых, дапамагала бедным. У часы праўлення імператара Аляксандра Севера (з 222 г.) хрысціян, якія адказваліся пакланяцца рымскім багам, падвяргалі жорсткім пакутам. Была схоплена і Таццяна. Яе прымушалі прынесці ахвяру багам у храме Апалона. Таццяна малілася, і раптам адбыўся землятрус, статуя Апалона ў храме разбілася, сцены храма абваліліся. Відавочцы сцвярджалі, што бачылі як нячысты, які быў у статуі, вылецеў з яе. Але мучыцеляў Таццяны гэта не прыпыніла, яны працягвалі жорсткія катаванні. Восем карнікаў уверавалі ў Хрыста і прасілі яе дараваць ім зло, якое яны ёй нанеслі. Іх пакаралі за адступніцтва. Мучыцелі Таццяны не адступалі, яе адвялі ў капішчу багіні Дыяны, патрабавалі прынесці ахвяру. І зноў малітвы Таццяны былі пачуты – маланка знішчыла і статую, і яе жрацоў. Але зноў Таццяну падверглі жорсткім катаванням. У турме яе наведалі анёлы Божыя і вылечылі раны. Потым Таццяну завялі ў цырк і аддалі на расцярзанне льву, але жывёла лашчылася да яе і лізала ногі. Яе кінулі ў агонь – полымя не нанесла ёй шкоды. Тады Таццяне адсеклі галаву.

25(14) студзеня 1755 года, у дзень памяці святой Таццяны, імператрыца Елізавета Пятроўна падпісала указ, прадстаўлены графам І.І.Шуваловым, аб заснаванні Маскоўскага універсітэта. У імя Таццяны быў асвечаны і храм пры універсітэце. З той пары Таццяна ў нас шанавалася як заступніца адукацыі. А Таццянін дзень ператварыўся ў вясёлае студэнцкае свята.

25 студзеня ўручаюцца прэміі, студэнты весяляцца, усе Таццяны атрымоўваюць кветкі, віншаванні і падарункі. Дзень гэты паступова ператвараецца ў свята ўсёй моладзі.



Студэнты Акадэміі фізічнага выхавання глядзяць тэлетрансляцыю хакейнага матча Беларусь-Канада.

**Заробак кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў зараз будзе залежаць ад прыбытку гэтага прадпрыемства. Такое арыгінальнае рашэнне прыняў Савет міністраў. Каб атрымаць свой заробак, дырэктару прыйдзецца персанальна кантраляваць рэнтабельнасць свайго прадпрыемства.**

# Дырэктарату - канец!

■ Сяржук Вожыкаў

Дакумент Саўміна прыносіць змены і дапаўненні ў Палажэнне пра ўмовы аплаты працы кіраўнікоў дзяржаўных арганізацый з доляй уласнасці дзяржавы ў іх маёмасці. Згодна з імі па выніках за квартал аклады кіраўнікоў могуць павышацца да 5% (але не больш, чым на 25% акладу) за кожны працэнт павелічэння росту рэнтабельнасці рэалізаванай прадукцыі (прац, паслугаў) да мінулага квартала. Кіраўнікам стратных прадпрыемстваў прэміі могуць налічвацца ў залежнасці ад тэмпаў зніжэння стратнасці вытворчасці прадукцыі да мінулага квартала: за кожны працэнт зніжэння - да 5% (але не больш за 40%). Максімальны памер павелічэння не можа перавышаць 75% аклада (было 50%).

Дадаткова з прыбытку кіраўніку могуць выплочваць прэмію за перавыкананне плана па прыбытку (рэнтабельнасці) ад рэалізацыі прадукцыі (прац, паслугаў) дыферынцавана ў памеры, не перавышаючым 25% аклада за квартал.

# ПРАРВАЦЦА ПРАЗ ДЗВІНУ

## Глыбоцкі камерсант рызыкуе і на лёдзе

**У камерсанта шмат праблем. І не толькі звычных, прыкладам, з падаткавай інспекцыяй. Трэба ўсюды паспець: своечасова прыкупіць неабходны тавар, своечасова трапіць на кірмаш. А апярэдзіць канкурэнта – гэта ўжо ўдача.**

■ Алесь Касцень

Вось і рвуць глыбоцкія камерсанты напрамкі ў Верхнядзвінск. Праз Дзвіну, па лёдзе, бо мост сарвала яшчэ на пачатку зімы.

Знаёмы вадзіцель Павел, які возіць камерсантаў, расказвае:

"Вёз я ў Верхнядзвінск камерсанта на кірмаш. Даехалі да Дзвіны. І задумаліся. На лёдзе вады ў мінулую суботу было недзе на паўкола аўтамабіля. Што, рабіць круг на 50 кіламетраў і праехаць праз мост? Спазнімся.

Вырашылі рызыкнуць. З'езды да ракі ёсць. Ну як ехалі па самой рацэ – перадаць цяжка. Мурашкі беглі па целе ўвесь час. Праехалі! Затое на кірмашы былі сярод іншых глыбачан першымі. І што вы думаеце? Назад таксама рызыкнулі – прарваліся праз Дзвіну такім жа шляхам."

Такія "прарывы" сапраўды рызыкоўныя. Незадоўга да гэтага, у тым жа месцы спрабаваў праехаць праз Дзвіну вадзіцель "КАМаза". Добра, што здагадаўся высадзіць на беразе жонку з дзіцём. Сам жа выехаў на лёд. Да берагу ўжо заставалася метраў 10 – 15, калі шматтонная машына правалілася пад лёд. Вадзіцель здолеў адчыніць кабіну і выплысць. Машыну потым даставалі з дапамогаю вадалазаў. А вось 7 тон камбікорму, якія былі ў кузаве, прапалі.

І сёння на Дзвіне ў тым месцы ляжаць выразаныя кавалкі лёду, як напамінак аб рызыцы, якая часам бывае пакаранай.

# Паслугі сталі даражэй

**Напярэдадні новага года аблвыканкам павялічыў тарыфы на камунальныя паслугі для насельніцтва. У прыватнасці на 25% узрасла плата за ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне.**

■ Сяргей Антонаў

З 20 снежня 2002 года ўстаноўлены наступныя тарыфы: за адну гігакалорыю цеплавой энергіі – 16700,1 рубля, за ацяпленне 1 кв.м агульнай плошчы – 484,3 рубля ў месяц, за гарачае водазабеспячэнне з аднаго чалавека – 2556,9 рубля ў месяц, за 1 куб.м халоднага водазабеспячэння 106.5 рубля за 1 куб.м каналізацыі – 84,3 рубля.

Нагадваем, бюджэт вобласці на гэты год прадугледжвае, што насельніцтва павінна аплочваць 50% ад рэальнага кошту гэтых паслуг.

ЖАНОЧАЯ СТАРОНКА

# "КАПЯЛЮШЫК"

## Добрыя, пяшчотныя мужныя сяброўкі!



Вітаю вас на старонцы, якая прысвячаецца вам, вашым жаночым праблемам.

Іх не стала менш, іх стала намнога больш...

Крыўдна ўяўляць, што побач з намі ёсць шмат жанчын, якія пад цяжарам бытавых праблем не могуць пераадолець сябе, не могуць "выплысці ", губляюць сэнс жыцця. Заробкаў няма, а калі ёсць, то вельмі " смешныя " і затрымліваюцца недзе. А жыццё ідзе, можа і не наперад, але ідзе.

Будні змяняюцца святамі, растуць дзеці... Як яны растуць у гэтым сумбурным жыцці, што роіцца ў іх маленькіх галоўках, калі вакол "шыкуе цывілізацыя", а дома не кожная маці, іншы час, можа падаць белы батон сваім дзецям, не кажу ўжо пра цукеркі і іншае. Што рабіць, куды падацца, у каго спытаць, параіцца?

Гарэлка. Аддаць грошы, якія атрымала на дзяцей, а тады забыцца, мроіць у забыцці, бачыць сябе такой шчаслівай, каханай... Але што гэта? Прачнуцца раніцай і адчуць сябе брыдкай, растаптанай, нядобрай, прыкрай. Не, не трэба так! Вось жа дзеці, яны не вінаватыя, яны глядзяць у вочы. Матуля, мамка! Яны завуць, без цябе ім не выжыць, яны пакутуюць без цябе.

Ім трэба ласка, суцяшальныя словы твае... Адумайся! Ты была такая маладая, дужая, ты зможаш і цяпер знайсці нейкае выйсце, усхамяніся! Уяві: можна скончыць свой лёс у канаве, у поўным сэнсе гэтага слова. А каму ж будзе патрэбна твая крывінка?

П'янства жанчыны. Вось тое пытанне, якое стаіць сёння на першым месцы. Вось словы жанчыны. Яна працуе ў калгасе, які не выплаціў ёй грошы за некалькі месяцаў. Ёй і не толькі ёй: "Іншы раз, у адчаі не ведаеш, на што пайшоў бы, здаецца, калі ў кашальку няма ніводнага рубля. Пад мост, хіба..."

Добра ж было б так: "чужую бяду рукамі развяду ".

Многія з вас могуць сказаць, што ў кожнага з нас свой лёс. Гэта так. Але ж лёс мы павінны рабіць самі. Нам дадзена магчымасць выбіраць той шлях, які мы заслугоўваем, ці ведаем, што можам заслужыць. Адна з нас "кінецца" ў п'янства, ёй так лягчэй. Але ж у Бібліі сказана, што хлеб трэба здабываць у поце твару свайго. Адна мая добрая знаёмая злуецца, калі хтосьці скажа, што не мае сілы жыць, не ведае, дзе здабыць грошы, дзе і як іх зарабіць. Яна кажа, хай возьмуць кавалак зямлі, насадзяць бульбы, хай поўзаюць, полюць, працуюць, можа што і атрымаецца. Калі ж нічога не атрымаецца, няхай аб'явяць галадоўку, крычаць на ўвесь свет, бастуюць, але ж не пачынаюць піць. Няхай што-небудзь, але робяць. Гэта думка мужнай, дужай жанчыны, якая, як можа змагаецца з цяжкасцямі жыцця.




■ **Ганна Пяткевіч**

Раскрыты рот старой паштовай
скрынкі,
Трапеча на пабітай раме скотч,
А ў акне маленькая дзяўчынка
Малюе на лісце паперы ноч.

Малюе смешны месяц у панаме
І зорачкі над прорвамі двароў.
Яна ўсё гэта паказала б маме,
Ды мама п'е ў кампаніі сяброў

Там стол засланы жоўтаю газетай,
На ёй бутэлек здзеклівы парад.
Знікаюць твары ў дыме цыгарэтным,
І вісне ў паветры брудны мат

Гамонцы п'янай доўга не спыніцца,
Хоць горад у агнях неона спіць,
А заўтра, калі мамачка праспіцца,
Яна папросіць маму больш не піць:

-Ты паглядзіся ў люстэрка, мама,
(А сэрцайка дзіцячае баліць)
Я не хачу, калі дарослай стану,
Падобнай на цябе такую быць.

Раскрыты рот старой паштовай
скрынкі,
Трапеча на пабітай раме скотч,
А ў акне маленькая дзяўчынка
Малюе на лісце паперы ноч...

Ад віны да віна

## Развважанні псіхолага наконт алкаголю

**Першае, што штурхае чалавека – гэта страх перад невырашальнымі жыццёвымі праблемамі. У кожным асобным выпадку яны будуць рознымі. Але ж ход, якім карыстаюцца многія людзі, аднолькавы – зачыніцца ад усяго, што пужае пры дапамозе дурману.**

Страх перад праблемамі выконвае ролю тармазоў у рабоце мозга. Замест таго, каб шукаць выйсце са стрэсавай сітуацыі, чалавек пачынае панікаваць і адчайвацца, не можа даравацьсябе за трусасць і слабасць. Калі мы захочам дапамагчы тым, хто пакутуе ад алкагольнай залежнасці ў той стадыі, калі чалавек яшчэ здольны асэнсаваць і ўспрымаць акружаючых яго людзей, з ім трэба адразу пачаць гаварыць на тэму «выгоды» п'янства. А нам цяпер вядома, што яна, як правіла, звязана з баязлівасцю ўзяць на сябе якую-небудзь адказнасць за сваё жыццё ці за жыццё блізкіх людзей. І трэба знайсці той сорам, які стаў прычынай гэтага цяжкага захворвання.

Дык у чым жа шукаць выйсце са становішча?

Калі чалавек прызнаецца сам сабе ў страшнай праўдзе, што быў вымушаны піць ад страху і сораму, то зменіцца і рухне логіка памылак.

Раздвоенасць любога чалавека звязана з яго ўнутраным канфліктам паміж жадаемым і наяўным.

Розум, які заснаваны на прынцыпах маралі "блага-добра", не дазваляе выказаць вольнае жаданне. А калі ўсыпіць яго пільнасць наркотыкамі, у дадзеным выпадку – алкаголем, то тайнае стане выяўным і страціць небяспеку. Вось такім чынам чалавек "дапамагае" сабе пазбавіцца ад сораму і пачынае піць.

**Псіхалагічную дапамогу можна атрымаць у Глыбокім па тэлефоне 2-69-38 (Ганна)**

## Мая школа!

**Такі адміністратыўны квартэт склаўся ў сярэдняй школе № 1 г.Глыбокае. На здымку злева направа: Дырэктар Януш Іна Леанідаўна, і яе намесніцы: Музыкант Наталля Ермалаеўна, Шарынская Наталля Віктараўна, Бруйко Таццяна Цярэнцьеўна.**



Маладыя, энергічныя жанчыны ствараюць цёплы, утульны клімат у школе. Нават у цяжкіх умовах існавання навучальнай установы, калі не хапае сродкаў

на ўладкаванне матэрыяльнай базы, тут пануе спакойныя адносіны паміж калегамі, шчырасць і дабразычлівасць. Поспехаў ім у асабістым жыцці і творчых натхненняў пры дапамозе моцнага, зладжанага калектыва! Хочаце пераканацца- завітайце ў госці. 1 лютага 2003 у 15 гадзін школа ў чарговы раз будзе сустракаць сваіх выпускнікоў.

## Музей Паўла Сухога ў Глыбокім

Семнаццаць год таму маладая настаўніца гісторыі Рабіза Тэрэза Эдуардаўна здабыла звесткі аб тым, што ў мястэчку Глыбокае Дзісненскага павета Віленскай губерніі нарадзіўся знакаміты авіяканструктар савецкага перыяду, стваральнік самалёта АНТ-25, на якім два савецкіх экіпажы В.П.Чкалава і М.М.Громава ўсталявалі сусветны рэкорд дальнасці палёту,пераадолелі адлегласць у 9374 і 115000 км. З вялікай любоўю і энтузіязмам Тэрэза Эдуардаўна разам з вучнямі збіралі асабістыя рэчы канструктара, звесткі аб яго творчай дзейнасці.Зараз у музеі звыш 1000 экспанатаў.Ёсць таксама і мадэлі самалётаў: СУ-2, СУ-7, СУ-15, СУ-17, СУ-31, якія былі сканструяваны пад кіраўніцтвам П.В. Сухога. Прыцягвае ўвагу катапультнае крэсла, пульт кіравання знішчальніка СУ-17. Многа сабрана і ўпарадкавана пісем Сухога да родных, афармлены ўспаміны саратнікаў аб Генеральным каструктары. Добрым здабыткам сталі ўзнагароды, кнігі выдатнага земляка.

**На здымку: Стваральнік і кіраўнік музея П.В. Сухога ў СШ № 1 Рабіза Т.Э. і старшыня савета музея вучаніца 11 класа Парфяновіч Марына.**



**Старонку падрыхтавала Ганна Мартыноўская**

Гісторыя

# "Няма хлеба ў тутэйшым краю"

■ Ул. Скрабатун

**У свой час я ганарыўся, што Глыбокае – адзіны горад Беларусі, дзе няма вуліцы імя расійскага палкаводца А.В. Суворава.**

**Ішоў час. Горад рос. Ужо не пару дзесяткаў вуліц, а без малога – дзвесці. З'яўленне такой вуліцы засталося заўважальным хіба для яе насельнікаў і бліжэйшых суседзяў. І ўсё ж! Ці маглі, нават у жахлівым сне, глыбоцкія паўстанцы 1794 года ўявіць, што праз паўтары стагоддзі імем душыцеля беларускага народа, які патапіў яго ў крыві, зрабіў наш край бязлюднай пустэльняй, будзе названа вуліца ў кожным мястэчку і райцэнтры, безліч калгасаў і саўгасаў. Нашчадкі сталіся няўдзячнымі памяці тых, хто палёг у змаганні з іншаземнымі акупантамі.**


Касцюшка Тадэвуш

**1. Архіўны дакумент** *(друкуецца на мове і паводле правапісу арыгінала)*

### *13 июня. Отношение генерала И. Германа к Н. Репнину с жалобами на продовольственные трудности*

Доставление провианта меня крайне озабочивает. Онаго довольно есть в Десне и Полоцке, но подводы ищутся с великою трудностию. Шедши от Десны с десятидневным провиантом, сей провиант вчерась уже кончился и я перебиваюсь всячески, доставая, сколько найду в неприятельской земле. Отрядами изнурил конницу. Нет хлеба в здешнем крае и Польша походит более на пустыню, нежели на обитаемую землю.

Уведомился я сего дня, что десятидневной провиант мой из Десны прибыл в Глубокое. На всякий случай отправил я уже вчерась туда полковыя провиантские фуры. Люди, близ границы живущия, скрываются от страху по лесам и начели только иные возвращаться в свои домы. Подвод собрать трудно. Сам господин провиантмейстер-лейтенант, подполковник Берх вчерась ко мне из Полоцка приехал и я с ним все надобное учреждение зделал для будащаго продовольствия вверенного мне отряда, но в разсуждении подвод покорнейше прошу вашего сиятельства господину полоцкому губернатору предписать, чтоб он иногда с своей стороны делал помощь.

АВПРИ, ф. 79, оп. 6, д. 1838, л. 153.


Рэпнін Мікалай
*князь, генерал*

**Пасля прачытання вышэйзгаданых архіўных радкоў, у нашых чытачоў можа скласціся памылковая думка, што жыхары Глыбоччыны так напалохаліся суворАўскіх войскаў, што дзённа і ночна хаваліся ў лясах. Гэта не так!**

**2. Архіўны дакумент** *(друкуецца на мове і паводле правапісу арыгінала)*

### *29 мая. Сообщение генерала И. Германа Н. Репнину о своих действиях в Браславском повете.*

Получа на ходу повеление вашего сиятельства от 27 мая, из Лушки чрез Ермановичи следовать буду к стороне Браслава и соединюсь около Погоста с баталионом, которой от меня из Десны туда отражен. Но как сей же час получил курьера от господина минскаго губернатора, и кавалера Неплюева, что в Волколате в тридцати верстах от Глубокаго волнение около етаго места в самом народе явно окрылось, что команда из Минска в 20 человек туда посланная изтреблена и что посему думать должно, что сие произшествие имеет свой корень в какой-либо особой партикулярной причине, ежели подлинно команда там бывшая в двадцать человек истреблена. Но при всем том служит сие доказательством, что и внутри границ в настоящих обстоятельствах на мелкия раздробления войски разсыпать не должно. Они приходят от того в неуважение и потому опастности подвержены. Имеется между сими бунтовщиками и мятежниками виленское известное сообщение. Я принужденным нахожусь в Глубокое отделить батальон и туда вскорости отрядить двух ескадронов от Псковскаго драгунскаго полку с орудием, сколь скоро сей полк в Десну прибудет. От реченнаго полку получил сегодня рапорт, что первая колонна онаго прибудет 2 числа июня в Десну.

АВПРИ, ф. 79, оп. 6, д. 1838, л. 20 – 20 об.

### *Успаміны аб будучыні*

А.В.Сувораў быў вялікім палкаводцам, і гэта – аксіёма. Але ён быў вялікім палкаводцам расійскага народа. На Беларусь ён прыйшоў як душыцель паўстання пад кіраўніцтвам нашага слаўнага суайчынніка Тадэвуша Касцюшкі. Яго войска заліло Беларусь крывёю. "Нет хлеба в здешнем краю и Польша (*у дадзеным выпадку Рэч Паспалітая*,**- рэд.**) походит более на пустыню, нежели на обитаемую землю". Гэтыя словы датычаць Глыбоччыны (*гл. 1-шы архіўны дакумент*).

Я веру, што новае пакаленне будзе больш удзячным. Гістарычная справядлівасць мусіць быць аднаўленай. Вуліца Суворава будзе перайменавана ў вуліцу імя Тадэвуша Касцюшкі, альбо іншых славутых нашых землякоў, герояў паўстання 1794 года: Якуба Ясінскага ці Томаша Ваўжэцкага, альбо Міхала Клеафаса Агінскага, падскарбія Вялікага княства Літоўскага, шэфа корпуса вольных стралкоў, кампазітара і аўтара славутага паланеза "Развітанне з радзімай".

Інакш нельга. Досыць пляваць нам у твар.

# НАША ВЕРА

**Большая частка беларусаў лічыць сябе веруючымі людзьмі. Пераважную частку вернікаў у Беларусі складаюць хрысціяне праваслаўнай канфесіі (75 – 80% па розных ацэнках), хрысціян-каталікаў у Беларусі каля 20%, іншыя вернікі складаюць пакуль невялікую частку. У нашым рэгіёне сітуацыя зусім іншая. Хрысціян асноўных канфесій (праваслаўных і каталікаў) у нас прыкладна пароўну. Але ці лічымся мы на самой справе глыбока веруючымі людзьмі, такімі, як нас вучыць рэлігія? Назіраючы за нашым жыццём, прыходзіш да высновы што не.**

■ Зміцер Лупач

Часта прыходзіцца чуць, як выйшаўшы з касцёла ці царквы, чалавек зноў лаецца брыдкімі словамі, некага праклінае. Нас перапаўняе нянавісць да бліжніх, гнеў, жаданне камусьці за нешта адпомсціць. А гэта і ёсць галоўныя грахі. Канечне, людзі не могуць быць ідэальнымі па сваёй прыродзе, але, чэрпаючы свае сілы ў веры, павінны імкнуцца да лепшага. У большасці нас няма і гэтага памкнення. Мы верым у Бога, як у нешта абстрактнае, ні да чаго не абавязуючае. Галоўная хрысціянская запаведзь, якая замінае нас любіць Бога ўсім сэрцам і душой, намі не выконваецца. Мы, калі і верым Богу, то больш ад страху перад ім, а не з любові. Любіць жа Бога ў бліжнім сваім мы не ўмеем і не хочам гэтаму вучыцца. Апостал Ян Багаслоў у сваім Першым Саборным Пасланні піша: "Хто кажа: я люблю Бога, а брата свайго ненавідзіць, той ілжэ; бо хто не любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога не бачыць?"

Пра тое, як мы верым у Бога, сведчыць і тое, як мы святкуем святы. Святочны дзень устаноўлены на тое, каб мы мелі час адпачыць і, будучы вольнымі ад цяжкай працы, праславіць Бога ў малітве. Для многіх жа свята – гэта прычына напіцца і яшчэ больш награшыць. Неяк, памятаю, сустракаю знаёмага, які ідзе з касою. Кажу яму, што сёння свята, дзень святых Пятра і Паўла. Ён адказвае: "Ай, а я во і забыўся, то трэба ж ісці піць гарэлку." У многім тут вінавата наша камуністычнае мінулае, калі людзей сілком выганялі на працу нават на першы дзень Вялікадня. І, выказваючы свой пратэст, людзі не знаходзілі іншага выйсця, як толькі напіцца. Выніку з той працы не было ніякага, але і дома па-людску сустрэць свята чалавек не мог. І хаця цяпер сітуацыя ў гэтым плане змянілася, мы расставацца з дурнымі звычкамі пакуль не спяшаемся.



На маю думку, не спрыяе ўмацаванню нашай веры і тое, што молімся мы ў храмах як у праваслаўных, так і каталіцкіх у асноўным на чужых мовах (царкоўнаславянскай і польскай). Праўда, трэба адзначыць, што ў апошні час каталіцкі касцёл робіць шмат для таго, каб перавесці службу на беларускую мову. Але часта гэта выклікае супраціў людзей старэйшага ўзросту. Як быццам бы Бог, стварыўшы ўсе народы роўнымі, мову аднаго народа разумее, а другога не. Апостал Павел у Першым Пасланні Да Карынфянаў піша: "...калі я малюся на незнаёмай мове, дык, хоць дух мой і моліцца, але розум мой застаецца без плоду."

Многія не ведаюць, што ў хрысціян розных канфесій Біблія адна і тая ж. Таму, калі хто незнаёмы прапануе яе пачытаць, шарахаюцца ад яе, як ад нечага нячыстага. Я быў сведкам, як адной маёй знаёмай нехта з пратэстантаў прапанаваў пачытаць Біблію, а яна адказала, што яна каталічка, а ў касцёле Бібліі не чытаюць. На жаль, не адна яна так думае. У многім тут таксама вінавата тое, што на царкоўных службах Біблія чытаецца на малазразумелай мове. Трэба адзначыць, што ўжо з'явіліся пераклады Святога Пісьма на беларускую мову каталіцкіх і праваслаўных перакладчыкаў.

Таму давайце будзем чытаць Святую кнігу і старацца паступаць у жыцці так, як яна нас вучыць. Калі мы будзем бліжэй да Бога, то і ён нас не пакіне. Веры, Надзеі і Любові ўсім нам.

# "Поле" Еўфрасінні

**З 8 па 11 студзеня ў Полацку праходзіла алімпіяда школьнікаў па геаграфіі і астраноміі. Прымалі ў ёй удзел і прадстаўнікі школ Глыбоччыны. У адзін з дзён алімпіяды ў рамках культурнай праграмы школьнікаў павезлі па полацкіх славутых і святых месцах.**

■ Алесь Касцень

Вырашылі сфатаграфавацца каля Спаса-Еўфрасінеўскай царквы. Выйшаў фатограф. Але...Не працуе фотаапарат. Корпаўся - корпаўся чалавек – нічога не атрымліваецца.

Выйшаў перад групай навучэнец са сваім – прыладзіўся. Зноў нічога не атрымліваецца.

Знайшлася яшчэ адна ўладальніца гэтага зусім не апошняга цуда тэхнікі. Узялася яна зрабіць здымак.

Таксама фотаапарат не працуе.

Увесь натоўп быў у разгубленасці. Нехта заўважыў:

«Гэта поле Еўфрасінні адмаўляе нам.»

Нехта гэтаму паверыў, нехта скептычна пасміхнуўся.

Але ж якое было ўсеагульнае здзіўленне, калі ў іншым месцы, дзе ўдзельнікі экскурсіі вырашылі сфатаграфавацца – фотаапараты запрацавалі! Гэту гісторыю расказаў настаўнік Чарневіцкай школы Віктар Міхайлавіч Норка.

Прыслаў чытач вершы

## Саша Шымко

**Яна навучаецца ў СШ № 2 г. Глыбокае. Шасцікласніца. Недзе год, як піша вершы. Пакуль што яны могуць выклікаць і замілаванасць і пэўны скепсіс – што яшчэ атрымаецца. Але тое, што Саша – творчая натура, бясспрэчна. Пажадаем ёй поспехаў ва ўсялякай справе, якой аддасць дзяўчынка перавагу. Пакуль што гэта літаратура, да якой заахвочвае любімая настаўніца Ганна Бенядзіктаўна Пяткевіч. А мне падалося адметным у лёсе Сашы наступнае. Бацька ў яе глыбачанін, а вось маці эстонка. Нармальная з'ява для нашага часу. І добра тое, што пачувае Саша сябе беларускай. Хаця ў школе, дзе яна навучаецца, чатыры гадзіны беларускай мовы на тыдзень, урокаў англійскай – дзве. Астатняе ўсё па-руску. Але і гэта не галоўнае. Галоўнае, што растуць на беларускай зямлі такія таленавітыя дзеці.**

*Алесь Касцень*



x x x

Як люблю я цябе,Беларусь,
Спадзяюся і веру ў цябе я.
Прысвячаю табе ўсё жыццё,
Каб навекі была ты маёю.
Ты прыгожая, светлая самая,
Сінявокая кветка зямлі.
Твае рэкі, азёры, крыніцы
Не губляюць сваёй чысціні.
Ты – Радзіма, ты больш,
чым Радзіма.

Як нам цяжка цябе
зразумець.
Ты адважная, лепшая самая
Мы ці ў моцы усё гэта мець?

Як люблю я цябе, Беларусь,
Спадзяюся і веру ў цябе я.
Прысвячаю табе ўсё жыццё,
Каб на векі была ты маею.

x x x

Зимний закат так красив,
так прекрасен,
Зимний денек, как
солнышко ясен.
Деревья зимою синие в инее,
Ветки уже не дрожат.
Сосульки на крышах –
белые, длинные,
Вниз головою висят.

# Вечар школьных сяброў

**Алена Крупская (у дзявоцтве Цяліца)**

**1 лютага 2003 года адбудзецца вечар сустрэчы з выпускнікамі ва ўсіх школах. Мы, выпускнікі 1983 года СШ № 1 г.Глыбокае, 10 "Б" клас.**

Дарагія мае аднакласнікі і аднакласніцы, а таксама класны кіраўнік Пінчук Людміла Мікалаеўна, дазвольце павіншаваць вас усіх з гэтым хвалюючым днём. Жадаю моцнага здароўя, даўгалецця, поспехаў і ўдачы ва ўсім і заўсёды. Няхай хапае ва ўсіх цяжкасцей і праблем у наш нялёгкі час. Толькі не трэба сумаваць, на жыццё трэба глядзець прасцей і крочыць па гэтай дарозе ўпэўненей.

Не трэба нам забывацца адзін на аднаго. Школьнае сяброўства звязанае з самымі нашымі шчаслівымі і бясклапотнымі гадамі. Дык давайце ж яшчэ раз успомнім яго, зберамся разам.

Давайте годам вопреки
Как прежде, будем мы близки
И на февральский школьный вечер
Прийдём друг к другу мы на встречу.
Отбросив все свои дела,
Мы вместе в прошлое вернёмся.
Давайте 20 лет спустя
И погрустим, и посмеёмся.
Ведь это много – 20 лет!
Уже кого-то нет на свете…
У всех у нас давно есть дети.
Теперь мы им даём совет.
Не важно, кто из нас есть кто…
Мы в этот вечер все едины.
И жизнь прокрутим, как кино,
В чудесный вечер, вечер дивный.



10«Б» класСШ№1,1983г., сустрэнемся праз 20 год!

## Выпускнікам школы былым і сённяшнім

Напярэдадні вечара сустрэчы з выпускнікамі "Вольнае Глыбокае" прапануе вам размясціць свае ўспаміны, віншаванні ці проста цікавыя гісторыі свайго школьнага жыцця на старонках нашай газеты. Вашы матэрыялы прыме да 27-га студзеня наш распаўсюджвальнік на рынку, а мы ў сваю чаргу абяцаем іх надрукаваць у наступным нумары.

# Ад крыніцы Святога Яна: гуркі сапраўды хрумсцяць!

**Недалёка ад Чарневіч, дзе зыходзяцца межы Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага і Мёрскага раёнаў, знаходзіцца ўнікальны прыродны і культавы аб'ект – крыніца Святога Яна. Спакон веку прыходзяць сюды людзі, вада з крыніцы лічыцца святой і гаючай. У жніўні мінулага года карэспандэнты газеты пабывалі ля крыніцы, пасля ў газеце з'явіўся артыкул, у якім былі і такія радкі:**

**Уладзімір Скрабатун**

"Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што калі закансерваваць агуркі на святаянаўскай вадзе без стэрылізацыі, то слоікі " не ўзарвуцца", як гэта часта бывае на звычайнай і са стэрылізацыяй. Не ведаем, ці праўда гэта, але нам тых гуркоў ніхто і не даў пакаштаваць, як ні шукалі".

Мы тады не пісалі аб гэтым, але вады са святой крыніцы набралі і агуркі адзін з супрацоўнікаў рэдакцыі закансерваваў. Без аніякай стэрылізацыі. І вось сёння можам аўтарытэтна заявіць:

- Так, слоікі "не ўзарваліся"! А смак гуркоў цудоўны.

Яшэ мы пацікавіліся: ці былі пад час вадохрышчаў купанні ў святой крыніцы сёлета. Аказалася, перашкодзіла надвор'е. Такая слізгата, што ў тыя мясціны дабрацца проста немагчыма. Але знайшоўся такі мужчына, які акунуўся ў рэчку Авуту, якую сілкуе крыніца. Будзе моцны і здаровы чалавек!




аварыя

# Фантан на Савецкай

**Некаторым жыхарам вуліцы Савецкай не пашанцавала ў мінулыя суботу і нядзелю. Адбыліся тут прарывы водаправодаў. У адным з месцаў назіраўся нават цэлы фантан нерукатворны. Здараецца.**

**Уласная інфармацыя**

Як патлумачылі нашаму карэспандэнту ў раённым вытворчым аб'яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі: аварыі на водаправодзе адбыліся з дзвюх прычын. Трубы ўкладаліся тут яшчэ ў 70-е гады, знасіліся. А з-за вялікіх маразоў адбылося глыбокае прамярзанне глебы, што і прывяло да разрыву металу. Нягледзячы на тое, што былі выхадныя, свята, брыгада рамонтнікаў своечасова займалася ліквідацыяй аварыі.

Але такая бяда не толькі на гэтай вуліцы. Чарговая аварыя адбылася на вуліцы Вольнай.

Калектыў рэдакцыі газеты "Вольнае Глыбокае" шчыра віншуе
**Уладзіміра Скрабатуна**
з днём нараджэння. Жадаем здароўя, аптымізму, сямейнага шчасця, поспехаў ва ўсім. Жыве Беларусь!

Табе падкінуў падарункі
Няўдзячны ў гэты месяц лёс:
Праблемы, людзі і стасункі
Усё жыццё вядуць наўскос.
Ды не сумуй ты і ўсміхніся,
Глядзі наперад весялей.
Мароз і той вунь адваліўся
Усё наладзіцца далей!

